

Праваабарончы
інфармацыйны бюлетэнь
Берасьцейшчыны

№3 (сакавік), 2016

# Мяжа




**З ДНЁМ НЕЗЕЛЕЖНАСЦІ, БЕЛАРУСЬ!**

(старонка 15)

## ЗЬМЕСТ

Старонка 3 У Берасьці вясну гукалі
Старонка 5 **Берасцейскія ІП прыедуць у Менск на марш прадпрымальнікаў**
Старонка 6 Актывісты збіраюць грошы на помнік Алесю Чаркашыну
Старонка 7 **Пракуратура Брэсцкай вобласці лічыць адмову ў азнаямленні з вынікамі выбараў на ўчастках законнай**
Старонка 8 Частка берасцейскіх прадпрымальнікаў выйшла на працу
Старонка 9 **У Бярозе пададзена заява на пікет да Дня Волі**
Старонка 10 У Берасьці міліцыя не дала знішчыць “карупцыю” і “бюракрата”!
Старонка 11 **Спадзявацца толькі на сябе**
Старонка 11 У Берасці дыскутавалі пра ахову гісторыка-культурных каштоўнасцяў
Старонка 12 **Беспадстаўнае затрыманне без увагі не пакіну**
Старонка 13 Пінск рыхтуецца да ўгодкаў абвяшчэння БНР
Старонка 14 **У Бярозе адбудзецца дазволены пікет на Дзень Волі. Чакаецца 10 пікетоўцаў і 4 міліцыянты**
Старонка 15 З ДНЁМ НЕЗЕЛЕЖНАСЦІ, БЕЛАРУСЬ!
Старонка 16 **Дзень Волі ў Бярозе**

## У Берасьці вясну гукалі

Гуканне вясны - старажытнае свята развітання з зімой і сустрэчы вясны. Яно традыцыйна суправаджаецца абрадавымі вясновымі песнямі, карагодамі. Людзі заклікаюць вясну хутчэй прыйсці, радуюцца першаму вясноваму сонцу і праганяюць зіму.

Рознакаляровых самаробных птушак нашы продкі вешалі заўсёды як мага вышэй, лічылася, што так адляцеўшыя на поўдзень птушыныя хутчэй іх заўважаць. Такім чынам ўпрыгожвалі дрэвы ў садзе, дома.

«Гуканне вясны» - свята не толькі яркі, але і вельмі музычны. Клікаць вясну пачынаюць дзяўчыны, яны спяваюць песні-вяснянкі. Асаблівасцю такіх песень з'яўляецца тое, што кожны куплет сканчаецца гучных крыкам «Гу-у-у-у!». Адсюль і назва - «гуканне».

Жавароначкі прыляціце
вясну красную прынясіце
каб сонейка засвяціла
каб снег белы растапіла
каб садзікі расквяціла. Гу-у

Жавароначкі прыляціце
цёпла лецейка прынясіце
а зімачку прыбярыце
бо зімачка надаела
нам хлебушкі пераела. Гу-у

Жавароначкі прыляціце
землю-матухну абудзіце
і дожджыкам напаіце
каб травачкі нарасціла
і волікаў накарміла. Гу-у

У Берасце на курсах “Мова нанова” акрамя беларускай граматыкі слухачы “вясну гукалі”: рабілі птушак з паперы, разам пераспявалі




песню “Жавароначкаў”.

Госцем “Мовы нанова” быў Vinsent (Зміцер Папко), беларускамоўны рэп-выканаўца, акцёр. Vinsent выконвае рэп уласных кампазіцый, перакладае тэксты песень на беларускую мову для іншых калектываў. Ён выдаў два музычных альбомы, апошні можна было набыць пасля выступа рэпера.

Vinsent зняўся ў фільмах «Вышэй за неба» і «Жыве Беларусь!», дзе выканаў галоўную ролю.

«Жыве Беларусь!» - польскі мастацкі фільм, зняты рэжысёрам Кшыштафам Лукашэвічам. Прэм'ера фільма адбылася 22 мая 2012 года на 65-м Канскім кінафестывалі. У кінатэатрах Беларусі фільм не дэманстраваўся.

У фільме паказана дзедаўшчына ў войску, рэпрэсіі, фальсіфікацыі на выбарах, культ асобы, дыскрымінацыя беларускай мовы, праблемы людзей, якія жывуць у Чарнобыльскай зоне, якая нечакана стала чыстай, дзейнасць дзяржаўнай прапаганды і КДБ. Беларусь паказана як краіна-запаведнік Савецкага саюза разам з усімі перажыткамі той эпохі і Леніным, у якасці ідала на пляцы ў

вайсковай часці. Выразна паказаны раскол грамадства на прыхільнікаў і праціўнікаў рэжыму. Рэжысёру бліскуча атрымалася перадаць страх, у якім жыве грамадства.

Фільм вучыць мужнасці, стойкасці, не чакаць літасці, не адступаць, а ісці да канца ў дасягненні сваіх мэтаў, змагацца за справядлівасць і сваім прыкладам заражаць іншых людзей на негвалтоўную барацьбу.

Слухачы курсаў "Мова нанова", дзякуючы Вінсэнту, заспявалі беларускі рэп, выказалі падзяку за фільм "Жыве Беларусь".

## Берасцейскія ІП прыедуць у Менск на марш прадпрымальнікаў




Берасцейскія індывідуальныя прадпрымальнікі паедуць на марш прадпрыемцаў, прызначаны на 14 сакавіка ў Менску.а

Такая пастанова прынятая на праведзеным 2 сакавіка ў Берасці сходзе з удзелам блізу 150 ІП, якія гандлявалі прадукцыяй лёгкай прамысловасці на базарах і ў гандлёвых цэнтрах рэгіёну, паведамляе БелаПАН.

«Нас слухаюць, але не чуюць. Застаецца толькі адно: масавы выхад прадпрымальнікаў на марш. Іншага на сённяшні дзень я не бачу», - заявіла індывідуальная прадпрымальніца, сябра РГА «Перспектыва» Алена Кустус.

Удзельнікі сходу прынялі пастанову да 14 сакавіка не выходзіць на працу.

«А калі нічога не зменіцца, трэба пераходзіць да іншых акцый пратэсту, каб дамагчыся скасавання ўказаў №222 і 48», - выказаў меркаванне адзін з прадпрыемцаў.

1 студзеня прыпынілі працу 80% берасцейскіх ІП, якія гандлююць нехарчовымі таварамі. Блізка што 75% па-ранейшаму не працуюць.

http://charter97.org/be/news/2016/3/2/193570/

# Актывісты збіраюць грошы на помнік Алесю Чаркашыну




3-га сакавіка роўна мінула роўна паўгода з дня смерці на Данбасе беларускага капелана Алеся Чаркашына. На сядзібе БНФ у Менску прайшоў дабрачынны вечар-рэквіем. Імпрэза ладзілася ў межах збору сродкаў на помнік загінуўшаму беларусу. Гаворыць арганізатар акцыі, палітык Павал Севярынец:

— Сёння будзем прэзентаваць праект помніка Алесю Чаркашыну і збіраць сродкі на ягонае ўсталяванне. Мы хочам гэта зрабіць да жніўня, да даты гібелі Алеся. Гэтыя грошы мы перадаём бацькам Алеся, ужо цяпер сабрана каля трацiны сумы, патрэбнай на помнік.

«Спадзяюся, што ўдасца яшчэ правесці шэраг мерапрыемстваў, каб паспець сабраць у час адпаведную суму», — дадаў Севярынец. Удзел у мерапрыемстве ўзялі Зьміцер Вайцюшкеівч, Андрэй Мельнікаў, Генік Лойка, Алесь Пушкін ды іншыя. Збор сродкаў на ўсталяванне надмагільнага помніка Алесю Чаркашыну будзе доўжыцца да жніўня.

Таксама Павал Севярынец абвясціў пра стварэнне ў верасні адмысловай прэміі ў гонар Чаркашына. «Мы ўсур'ёз думаем пра

мемарыялізацыю памяці Алеся Чаркашына ў гэтым годзе,» – гаворыць палітык:

— Есць дыск, мы пачнём з помніка а як дасць Бог, дык будзе і прэмія імя Алеся Чаркашына. Гэтая ідэя абмяркоўвалася ў нас у партыі. Думаю, што на гадавіну смерці Алеся абавязкова штосьці яшчэ будзе і думаю гэту хутчэй за ўсё будзе прэмія ўчынку. Прынамсі мне, гэта бачыцца так.

«На бліжэйшых партыйных нарадах, спадзяюся, мы канчаткова вырашым гэтае пытанне фармату прэміі», – адзначыў Павал Севярынец. Загінуўшы пад час мінамётнага абстрэлу Алесь Чаркашын быў сябрам берасцейскай філіі БХД.

http://www.racyja.com/hramadstva/aktyvisty-zbirayuts-groshy-na-pomnik-al/

## Пракуратура Брэсцкай вобласці лічыць адмову ў азнаямленні з вынікамі выбараў на ўчастках законнай

Праваабаронца Сяргей Гоўша атрымаў адказ ад пракурора Брэсцкай вобласці Віктара Клімава на сваю скаргу. Пракурор, як і баранавіцкія, і брэсцкія абласныя ўлады, не ўбачыў парушэння ў адмове 11 жыхарам Баранавіч пазнаёміцца з дадзенымі аб выніках выбараў на ўсіх участках у Баранавічах, а не толькі з агульнымі дадзенымі, як гэтым жыхарам прапаноўваецца.

Пракурор Клімаў напісаў, што раней пракуратурай вобласці праводзілася праверка па рашэннях Баранавіцкага гарвыканкама і Брэсцкага аблвыканкама. Парушэнняў заканадаўства не выяўлена, пра што паведамлялася 18.01.2016 г. “Пры паўторным звароце да пракурора вобласці вы новых фактаў, якія б не разглядаліся пракуратурай ранней, не паведамілі. У сувязі з чым мераў для пракурорскага рэагавання не маецца.”

Сяргей Гоўша вырашыў абскардзіць адказ абласнога пракурора Клімава Генеральнаму пракурору РБ.

З калектыўным зваротам упершыню да Баранавіцкага гарвыканкама звярнуліся 11 грамадзян 22.10.2015 г. Іх зацікавілі вынікі выбараў па ўсіх выбарчых участках, паколькі быў выяўлены факт, што выніковы пратакол аднаго з выбарчых участкаў быў заменены, і ў тэрытарыяльнай камісіі пратакол быў з зусім іншымі

вынікамі на карысць Аляксандра Лукашэнкі.

Чыноўнікі ўхіліся ад адказу, напісаўшы, што інфармацыя аб выніках выбараў падавалася ў СМІ і інтэрнэт-рэсурсах. Сапраўды, агульныя лічбы вынікаў выбараў былі, але не па ўчастках, аб чым прасілі зацікаўленыя выбаршчыкі. Пасля гэтага заяўнікі звярнуліся ў Брэсцкі аблвыканкам са скаргай на адмову Баранавіцкім гарвыканкамам агучыць вынікі выбараў па ўчастках. Але і аддтуль прыйшоў аналагічны адказ, як і з гарвыканкама. Тады Сяргей Гоўша ад імя гэтых 11 грамадзян звярнуўся ў абласную пракуратуру са скаргай на адказы чыноўнікаў. Адказ атрымаў за подпісам намесніка пракурора Аляксандра Точка, што парушэнняў у дзеяннях чыноўнікаў не выяўлена. Ужо пасля гэтага адказу ён паўторна падаў скаргу ў пракуратуру вобласці, але вынік яе разгляду быў аналагічны.

- У выбарчым заканадаўстве чорным па беламу напісана, што выбары павінны быць празрыстымі, -- кажа Сяргей Гоўша. - Але лепей жа схаваць канцы ў ваду, каб не было шуму. Бо, відаць, фальсіфікацыі вынікаў выбараў у Баранавічах адбыліся не толькі на адным участку.

http://spring96.org/be/news/82502

## Частка берасцейскіх прадпрымальнікаў выйшла на працу

Яны не баяцца пастановаў № 222 і 48, некаторыя з іх маюць сертыфікаты. Штодня выходзіць на працу амаль палова супрацоўнікаў рынку Лагуна ў мікрараёне Кавалёва.

Прадпрымальнікі, якія пратэстуюць супраць новых умоваў працы, адзначаюць, што іх калегі працуюць не заўсёды паводле закона і рызыкуюць сваім таварам:

— Супраць тых людзей, што працуюць па дакументах я не маю, бо людзі стараліся, зрабілі неяк тыя дакументы. Але я супраць несумленных прадпрымальнікаў, якія працуюць без дакументаў і хаваючыся за спінамі тых, людзей, якія нешта робяць, груба кажучы, паступаюць несумленна.

— Тыя, хто выйшаў працаваць па легальных дакументах, няхай працуюць,гэта выдатна, але тыя, хто выйшаў працаваць па ліпавых

дакументах, дык ім я магу толькі паспачуваць. Мне здаецца, яны працуюць ад безвыходнасці.

— Гэта смяротнікі, бо ўсе яны падпадуць пад канфіскацыю і расплацяцца сваёй маёмасцю, но плаціць будзе нечым. Штрафы проста вялізныя.

11 сакавіка Міністэрства эканомікі Рэспублікі Беларусь заявіла, што большасць прадпрымальнікаў выйшлі на працу і паабяцала знізіць штрафы. За гандаль без сертыфікатаў дробным бізнэсоўцам пагражаюць штрафы ў памеры ад 200 да 500 базавых велічынь. Чыноўнікі паабяцалі, што планка пакарання можа быць зменшана – ад 2 да 5 базавых, у залежнасці ад таго, як вырашыць суд.

http://www.racyja.com/ekanomika/chastka-berastsejskikh-pradprymalnika/

## У Бярозе пададзена заява на пікет да Дня Волі




Бярозаўскія праваабаронцы Сяржук Русецкі, Тамара Шчапёткіна і грамадская актывістка Таццяна Тарасевіч падалі заяву ў мясцовы раённы выканаўчы камітэт на пікет да Дня Волі -- 98-х угодкаў абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі.

Пікет запланаваны з 18 да 19 гадзін 25 сакавіка каля ўваходу на мясцовы Цэнтральны стадыён на галоўнай вуліцы горада. Пры гэтым заяўнікі адзначылі, што пры неабходнасці ўлады могуць прапанаваць іншае месца, калі ў гэты дзень і час на стадыёне плануецца іншае масавае мерапрыемства.

Паводле заяўнікаў пікету, сярод мэтаў пікета ёсць і выказванне пратэсту супраць указа №222, які пагоршыў умовы працы індывідуальных прадпрымальнікаў, і дэкрэту №3 “аб дармаедах”.

-Калі паўсюль аказваецца дапамога беспрацоўным, то ў нас не даюць прадпрымальнікам працаваць, людзей з прадпрыемстваў звальняюць, каб тыя пасля яшчэ і падаткі плацілі дзяржаве за дармаедства, -- кажа праваабаронца Сяржук Русецкі.

Нагадаем, што адмова на правядзенне папярэдняга пікета, які

планаваўся да Дня правоў чалавека 10 снежня, была абскарджана ў раённым судзе, а зараз скарга знаходзіцца ў касацыйнай інстанцыі.

http://spring96.org/be/news/82535

## У Берасьці міліцыя не дала знішчыць "карупцыю" і "бюракрата"!




У той сама час на стосе ўрачыста былі спаленыя "злодзей", "тэрарыст", "інфляцыя", "дармаед", "п'янства", "дэбашыр", "хвароба", "спайс" і некага пазначанага як "мне пляваць на ўсіх".

Спальванне адбывалася падчас мерапрыемства вядомага с паганскіх часоў як "Масленіца" арганізаванага ўладамі на тэрыторыі Маскоўскага раёна г. Брэста на тэрыторыі Парку Воінаў Інтэрнацыяналістаў.

Так сталася, што грамадзкага дзеяча і актывіста Віталя Казака, які вырабіў пудзілы "карупцыі" і "бюракрата", менавіта ў Парку Воінаў Інтэрнацыяналістаў затрымалі супрацоўнікі АМАПу. "Патлумачылі, каб не перашкаджаў святу, маўляў, не да рэчы!" – абураецца Казак: "У мінулым годзе палілі і ўсё было нармальна".

Ёсць мяркаванне, што міліцыя выратавала пудзілы па распараджэнні адміністрацыі таму, як напярэдадні свята Віталь Казак звяртаўся да ўладаў з просьбай спаліць "карупцыю" і "бюракрата" падчас агульнагарацкога мерапрыемства.

Пасля заканчэння свята пудзілы былі вернутыя ўладальніку. "Карупцыя" і "бюракрат" засталіся з берасцейцамі да наступнага года...

## Спадзявацца толькі на сябе




Павышенне коштаў за камунальныя паслугі прымушае жыхароў дома самастойна сачыць за чысцінёй свайго пад'езда.

Указ Прэзідэнта РБ ад 31.12.2015 № 535 "Аб прадастаўленні жыллёва-камунальных паслуг» унёс значныя змены ў пералік работ па тэхнічным абслугоўванні шматкватэрных дамоў. Раней ўборка пад'ездаў ўваходзіла ў пералік прадастаўляемых паслуг праз ЖКГ. Плацілі за камуналку меньш, а паслуг ад ЖКГ было больш. Цяпер за прыборку прыдзецца плаціць асобна.

Пунктам 1.5 Указа № 535 вызначана, што спажыўцы шматкватэрнага жылога дома, маюць права адмовіцца ад паслугі па санітарным утрыманні дапаможных памяшканняў жылога дома (за выключэннем паслуг па дэзінфекцыі, дэзінсекцыі, дэратызацыі).

Прапануюць заключаць дамову па ўборцы пад'ездаў з ЖКГ або самастойна ажыццяўляць санітарнае ўтрыманне пад'езда.

Жыхары аднаго з шматкватэрных домоў параіліся і вырашылі; ЖКГ добра прыбіраць не будзе, толькі яшчэ больш прыйдзецца плаціць за жыроўку. Спадзявацца можна толькі на сябе, таму вырашылі самастойна сачыць за чысцінёй подьезда згодна з графікам. Аднагалосна прынятае рашэнне пісьмова перадалі ў ЖКГ.

## У Берасці дыскутавалі пра ахову гісторыка-культурных каштоўнасцяў

У Берасці дыскутавалі пра «Ахову гісторыка-культурных каштоўнасцяў». Чарговы круглы стол, быў арганізаваны з ініцыятывы «European Urban Institute» і быў накіраваны да людзей неабыякавых

да спадчыны горада.

Падрабязней кажа адзін з мадэратараў сустрэчы Валерый Фамінскі:

— Мы разглядзелі гэтую тэму з розных бакоў: і ровень актыўнасці і прафесійны ровень, геаінфармацыйная сістэма. Трэба знаёміцца з тым рэсурсам і арсеналам тэхнічных сродкаў, якія дазваляюць прымаць адэкватныя тэхнічныя рашэнні у маштабах гарадскіх тэрыторыяў. Трэба апрача актывізму і медыяльных падзеяў выпрацоўваць паважныя, навукова абгрунтаваныя альтэрнатыўныя прапановы за захаванні гісторыка-культурных каштоўнасцяў.

Ініцыятары грамадскіх кансультацый прадставілі публічнасці сучасныя інструменты маніторынгу, якія створаны падвышэння грамадскага ўплыву на прыняццё рашэнняў пра лёс гісторыка-культурных каштоўнасцяў.

Ірэна Лаўроўская, доктар мастацтвазнаўства ў галіне ўрбаністыкі і архітэктуры

— Мы сёння прадстаўлялі якраз тую платформу, на якой можна супрацоўнічаць не толькі берасцейцам, але і жыхарам і аматарам гісторыі з усёй Беларусі і не толькі. Ёсць магчымасць запаўняць свой аб’ект і весці за ім назіранне, маніторыць яго, на працягу доўгага часу, а гэта хутчэй за ўсё тэхніка, пэўны механізм.

Апроч платформы, якую можна знайсці на сайце “European Urban Institute”, прэзентавалі яшчэ шэраг інструментаў маніторынгу стану архітэктурнай спадчыны. Сярод іх электронная версія гістарычнай мапы горада (ў вялікім разрашэнні) і відэаролікі з пакрокавым навучаннем працы па сучасных тэхналогіях. Падобныя сустрэчы працягнуцца і надалей, – зазначылі арганізатары.

Наступная сустрэча з цыклу запланавана на 20 сакавіка і арганізатары запрашаюць усіх тых хто захоча прыняць удзел у запаўненні базы дадзеных аб’ектаў культурнай спадчыны Берасця.

http://www.racyja.com/hramadstva/u-berastsi-dyskutavali-pra-akhovu-gisto/

## Беспадстаўнае затрыманне без увагі не пакіну

29 лютага 2016 года быў паданы калектыўны зварот на імя, главы адміністрацыі Маскоўскага раёна г.Брэста, Краўчука В.В. ад жыхароў,

з просьбай аб дазволу кінуць у «масленічны» касцер, побач з іншымі пудзіламі-заганамі, так сама пудзіла бюракратыі і карупцыі.

Адказ грамадскія дзеячы атрымалі за дзень да гуляння, у якім значылася, што такая прапанова не ўключана ў праграму.

«Але чаму арганізатары свята праігнаравалі прапанову, прапанову, якая ішла ад грамадства, ад народу? Нашыя планы благія, яны накіраваны на лад ў дзяржаве. І мы вырашылі дзейнічаць самастойна,– расказвае Віталій Казак, актыўны грамадскі дзеяч. – Я зрабіў два пудзілы, пранес іх на тэрыторыю парка. Да кастра не дайшоў метраў трыццаць, мяне затрымалі і правялі да сябе ў машыну міліцыянеры. Я быў гатовы размаўяць з кіраўніцтвам, або жаліцца ў камітэт дзяжбяспекі. Але мяне папрасілі проста пакінуць пудзілы, з умовай што аддадуць потым”.

“ Хаця спаліць “бюракратыю” і “карупцыю” не зусім атрымалася, лічу, вынік такой акцыі паспяховым. Таму што людзі заўважылі, спадзяюся зацікавіліся і не засталіся безудзельнымі. А пудзілы абавязкова спалім у наступным годзе”.

Параз некалькі дзён Віталь Казак прыйшоў да высновы, што пакінуць без увагі беспадстаўнае затрыманне на агульнагарацкім свяце не выпадае.

У дадатак, абураецца актывіст, улады, якія мусяць змагацца з бюракратыяй і выкараняць карупцыю – прадэманстравалі, што яны бароняць гэтыя ганебныя з’явы...

## Пінск рыхтуецца да ўгодкаў абвяшчэння БНР

Грамадскасць Пінска адзначыць 98-ыя ўгодкі абвяшчэння БНР, наведаўшы родныя мясціны ды ўсклаўшы кветкі да магілы прэм’ер-міністра БНР Рамана Скірмунта. Гэта традыцыя бярэ пачатак з 1992 года, калі ў вёсцы Парэчча, на месцы пахавання выбітнага дзеяча, усталявалі крыж. У Парэччы застаўся ўнікальны парк, створаны Скірмунтам, і некалькі прамысловых пабудоў ад колішняга маёнтка. У парку Скірмунт высадзіў дрэвы, звязаныя з Канадай і ЗША, напрыклад, “цюльпанавае дрэва”.

“Гэта прыклад любові да свайго краю”, – адзначае краязнаўца Таццяна Хвагіна:

– Гэта быў чалавек незвычайны, адукаваны, разумны, патрыятычны. Ён той, хто меў план у кожнай справе, якой займаўся. Так, адной са спраў яго жыцця стаў гэты парк. Гэта прыклад для астатніх, як на берагах Ясельды можна стварыць выдатныя ўмовы для адпачынку. І каб мы сёння ашчадліва і гаспадарліва аднесліся да гэтага парку, гэта быў бы вельмі цудоўны куточак.

Постаць Рамана Скірмунта шматгранная і не адкрытая шырокаму грамадству. Выправіць сітуацыю ўзяўся вядомы гарадзенскі гісторык Алесь Смалянчук, які падрыхтаваў выданне па жыцці і дзейнасці прэм’ер-міністра Беларускай Народнай Рэспублікі.

http://www.racyja.com/hramadstva/pinsk-rykhtuetstsa-da-ugodkau-abvyashchenn/

## У Бярозе адбудзецца дазволены пікет на Дзень Волі. Чакаецца 10 пікетоўцаў і 4 міліцыянты

25 сакавіка ў Бярозе (Берасьцейшчына) адбудзецца санкцыянаваны ўладамі пікет да 98-х угодкаў абвяшчэньня Беларускай Народнай Рэспублікі.

Пікет адбудзецца з 18 да 19 гадзіны на стадыёне мікрараёну «Паўночны» — адной зь дзьвюх вызначаных мясцовымі ўладамі пляцовак для масавых акцыяў.

Адзін з арганізатараў акцыі, сябра партыі БНФ, праваабаронца ПЦ «Вясна» Сяржук Русецкі:

«Мы хацелі праводзіць на Цэнтральным стадыёне Бярозы, які хаця б сваім уваходам выходзіць на галоўную вуліцу Леніна. Але ўлады прапанавалі нам стадыён Паўночнага гарадка, на краі гораду, менш людны ў гэты час. А з другога боку, у гэтым мікрараёне побач са стадыёнам некалькі шматпавярховых дамоў. У заяве мы пісалі, што меркаваная колькасьць удзельнікаў — да 10 чалавек. Але ж могуць быць удзельнікі пікета, а могуць быць і тыя людзі, якія проста падышлі да акцыі», — распавёў Сяржук Русецкі.

Мінулы дазволены пікет у Бярозе адбыўся 27 ліпеня 2015 году і быў прымеркаваны да ўгодкаў прыняцьця Дэкларацыі аб сувэрэнітэце Беларусі. Тады, распавёў Сяржук Русецкі, міліцыянты налічылі заплаціць больш як 4 мільёны за абслугоўваньне акцыі дзясяткам супрацоўнікаў. Аднак бярозаўскія праваабаронцы




абскардзілі ў МУС такую высокую, на іх думку, суму, і яе зьменшылі амаль напалову.

25 сакавіка, кажа Сяржук Русецкі, паводле дамовы зь міліцыянтамі на пікеце будзе ўжо меней супрацоўнікаў — усяго 4.

http://www.svaboda.org/content/article/27632803.html

## З ДНЁМ НЕЗЕЛЕЖНАСЦІ, БЕЛАРУСЬ!

25 сакавіка на Дзень Волі ў Берасьце традыцыйна адзначаюць ускладаннем кветак да магілы аднаго з дзеячоў БНР Адама Трыпуса.

98 гадоў таму Рада БНР прыняла Трэцюю Устаўную грамату, у якой абвяшчалася пра незалежнасць Рэспублікі. Гэта дало пачатак новай эпохі дзяржаўнага існаваньня беларускага народу. Галоўная заслуга БНР - у ідэйнай перамозе над бальшавіцкай палітыкай, якая адмаўляла беларускаму народу ў праве на самавызначэныіе і самастойнае дзяржаўнае існаваньне.У 20-я гады, калі яшчэ не было пэўна, што будзе ў Заходняй Беларусі, Адама Трыпуса прызначылі кіраўнікам Гарадзенскага павятовага партызанскага штабу і Гарадзенскага акруговага паўстанцкага штабу БНРаўскай партызанкі, якую спрабаваў супраць палякаў арганізаваць урад БНР Вацлава Ластоўскага.

Пасьля ўшанаваньня на могілках прысутныя атрымалі памятныя падарункі з нацыянальнай сімволікай.

БЯСКОНЦА НАША МАРА АБ СВАБОДЗЕ
ВЯДЗЕ НАС ПА ЗЯМЛІ І ПА ВАДЗЕ
ЯК СОНЦА, ШТО НІКОЛІ НЕ ЗАХОДЗЕ,
ЯК ЗОРКА, ШТО НІКОЛІ НЕ ЎПАДЗЕ!
Жыве Беларусь!

## Дзень Волі ў Бярозе

Бярозаўскія грамадскія актывісты прадэманстравалі павагу да сваёй гісторыі, да сімвалаў і ўспомнілі гістарычны момант стварэння вольнай, незалежнай беларускай дзяржавы. Прысутныя трымалі плакаты з надпісамі: «Беларусь — не Расея», «Не — Еўразійскаму саюзу», «Беспрацоўным — працу, а не дэкрэт пра дармаедства». Адна з заяўніц пікету Таццяна Тарасевіч сказала, што дазвол уладаў быў нечаканы, бо на дадзены момант скарга актывістаў на забарону пікету 10 снежня чакае разгляду ў касацыйнай інстанцыі:

– Для мяне гэта свята Беларусі, што мы незалежныя. Хачу пераменаў у сваёй краіне.

– Патрэбна, каб гэтае свята – 25 сакавіка – было дзяржаўным святам.

– Калі б на дзяржаўным узроўні дазволілі, то нас былі б тысячы.

– Раз у год узнікае магчымасць патрымаць у руках дарагі для мяне сцяг Беларусі.

– Я бы пайшоў на гэты пікет і недазволены ўладамі, таму што лічу гэта святам, якое варта адзначаць усёй краінай, абвяшчаць яго выходным днём.

Гэта першы пікет у Дзень Волі ў Бярозе за шмат гадоў, санкцыянаваны мясцовай уладай.

http://www.racyja.com/hramadstva/dzen-voli-u-byaroze/

**Кантакты:**

**e-mail:** viasna_bierascie@hotmail.com

**Наклад 299 асобникаў**

Праваабарончы
інфармацыйны бюлетэнь
Берасьцейшчыны
«Мяжа»